*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 7 (546) 13 ЛЮТАГА 2002 г.

# Падпіска на "Наша слова" – справа гонару кожнага сябра ТБМ

Паважаныя чытачы і падпісчыкі нашай газеты! У трэцім нумары "Нашага слова" мы надрукавалі вынікі падпіскі на 1 квартал 2002 года. Дзякуючы нашым з Вамі намаганням колькасць індывідуальных падпісчыкаў вырасла з 1335 (у мінулым годзе) да 1518. У сувязі з гэтым я хацеў бы выказаць шчырую падзяку кіраўніку Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ Алесю Місцюкевічу, сябру ТБМ з Камянца Івану Жытко, сябрам ТБМ з Берасця, Пінска, Віцебска, Гарадка, Шуміліна, Менска, Менскага раёна, Івацэвіч, Пухавіч, Мар'інай Горкі, Жыткавіч, Мазыра, Рэчыцы, Ваўкавыска, Наваградка, Смаргоні, Ліды, Горак, Магілёва і Шклова.

Асабліва я хачу выказаць падзяку асабіста спадарам Анатолю Бароўскаму і Змітру Паўлаўцу з Гомеля, дзе колькасць падпісчыкаў павялічылася з 49 да 97. Сярод абласных гарадоў гамяльчане ўпершыню выйшлі на першае месца, нават апярэдзілі Гародню. Гэта добры прыклад нашым сябрам з Магілёва, Віцебска і Баранавіч, дзе справы з падпіскай рухаюцца наперад вельмі і вельмі маруднаа. Прыемна здзівілі нас і сябры ТБМ з Лёзна, што на Віцебшчыне, дзе колькасць падпісчыкаў узрасла аж у 4,5 разы, з 5 да 22.

Вельмі добра арганізуе падпіску старшыня Мазырскай гарадской арганізацыі Людміла Піскун. Яна здолела разам з мясцовымі прадпрымальнікамі давесці колькасць падпісчыкаў да 49.

Аднак ёсць у нас суполкі, якія пусцілі гэтую справу на самацёк. На Берасцейшчыне гэта Бярозаўская, Белаазёрская і Столінская суполкі, на Віцебшчыне – Бешанковіцкая, Браслаўская, Глыбоцкая, Докшыцкая, Дубровенская, Лепельская, Ушацкая, Расонская і Сенненская. Апошнія дзве не падпісалі аніводнага асобніка "Нашага слова".

На Меншчыне не вельмі шчыруюць на гэтым адказным кірунку нашай дзейнасці сябры ТБМ з Клецку, Крупак, Смалявічаў, Старых Дарог, Стоўбцаў і Узды.

На Гомельшчыне варта актывізаваць працу па падпісцы нашым сябрам з Ельска, Акцябрскага раёна, Светлагорска і Рэчыцы. На Гарадзеншчыне сябры ТБМ значна больш актыўныя, чым у іншых раёнах, але і тут больш руплівасці трэба праявіць Мастоўскай, Астравецкай, Слонімскай і Шчучынскай суполкам, прыкладам для іх могуць быць Лідская гарадская (асабіста сп. Мельнік), Ваўкавыская і Гарадзенская раённыя арганізацыі.

На жаль, зменшылася колькасць прыхільнікаў "Нашага слова" ў Бабруйскай і Асіповіцкай арганізацыях ТБМ, кепска працуюць у гэтым кірунку сябры ТБМ з Бялынічаў, Крычава, Касцюковічаў, Мсціслава, Слаўгарада, Хоцімска і Чэрыкава.

Таму, шаноўныя сябры, давайце будзем ужо зараз пачынаць падпісную кампанію на другі квартал, пакуль кошты на падпіску не падняліся.

Цяпер некалькі слоў аб продажу "Нашага слова" у шапіках ці, як кажуць на наркамаўцы, у кіёсках Саюздруку. Нам скардзяцца, што ў некаторых гарадах газета не ляжыць на відавоку, яе хаваюць, а потым спісваюць. Тут можа быць толькі адна парада.

Нават калі вы сталі падпісчыкам, не паскупіцеся купіць чарговы нумар "Нашага слова" ў газетным шапіку. Аддайце яго сябру ці знаёмаму па працы, прапануйце аформіць падпіску. Калі вы некалькі разоў набудзеце "Наша слова" ў адным і тым жа месцы, то заўважце, што яно наступным разам будзе ляжаць сярод самага "хадавога" тавару. Гэтак мы робім ў Менску. І. напрыклад, у шапіку Беларускага універсітэта культуры некалькі нумароў газеты разбіраюць за пару дзён. Таму мы заклікаем да гэтага ўсіх нашых сяброў з вялікіх абласных і раённых гарадоў, дзе газетных шапікаў багата.

Спадзяюся, шаноўныя сябры, на вашую актыўнасць, бо калі не мы, дык тады хто за нас парупіцца аб "Нашым слове"?

**З павагай да вас усіх**
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны**
**Алег Трусаў.**

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства,*

***Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на другі квартал 2002 года. Пакуль што цана на падпіску не змянілася, нашая газета застаецца адной з самых танных культуралагічных газетаў Беларусі. Пры гэтым мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 1254 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.***

***Цана ведамаснай падпіскі складае 1392 рублі на квартал.***

***Мы просім усе арганізацыі ТБМ правесці падпіску на газету "Наша слова" для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Для кожнай арганізацыі -- гэта рэальная справа, для газеты -- рэальная магчымасць выжыць.***

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 1254 руб. | Колькасць | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | камплектаў | |

На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

## 195 гадоў з дня нараджэння Напалеона Орды



11 лютага споўнілася 195 гадоў з дня нараджэння ў в. Варацэвічы Іванаўскага раёна Берасцейскай вобласці Напалеона Орды, кампазітара, піяніста, мастака. Напалеон Орда - удзельнік паўстання 1830-31 гадоў, пасля чаго быў вымушаны эміграваць у Францыю, дзе яго музычныя здольнасці прыкмеціў Фрэдарык Шапэн. У 1856 годзе Напалеон Орда вяртаецца ў Беларусь, вандруе па краіне, шмат малюе. У канцы 2001 года выдадзены альбом малюнкаў Напалеона Орды з 122 ілюстрацыямі.

Знакамітаму суайчынніку пастаўлены помнік у г. Іванава Берасцейскай вобласці (на здымку). **Фота БелТА.**







26 снежня 2001 г. №_______

Старшыні Брэсцкага аблвыканкама
сп. Даўгалёву В.Б.
224000, г. Брэст, вул. Леніна, 11

Шаноўны Васіль Барысавіч !

Мы ведаем Вас як адказнага дзяржаўнага дзеяча, які прыхільна ставіцца да беларускай мовы, і таму не сумняваемся, што пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам Упраўленне адукацыі Брэсцкага аблвыканкама разгарнула дзейнасць па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27.08.2001 года.

Мы лічым, што ў адпаведнасці з пунктамі І.3., ІІІ. 1.2. і V. Пастановы варта было б, у першую чаргу, у верасні 2002 года адкрыць Нацыянальныя гімназіі з беларускай мовай навучання ў Брэсце, Баранавічах, Пінску, Івацэвічах і Кобрыне, а таксама стварыць беларускамоўныя аддзяленні ў ВНУ Брэста. Гэта станецца, на нашу думку, першым рэальным крокам на выкананні пункта перадвыбарчай праграмы кіраўніка нашай дзяржавы аб рэальнай роўнасці беларускай і рускай моваў.

Паведаміце нам, калі ласка, якія захады па рэалізацыі вышэйзгаданай Пастановы Вамі ўжо зроблены.

Прыміце нашыя Навагоднія і Калядныя віншаванні.

З павагай
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**



БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
вул. Леніна, 11, 224006, г. Брэст
тэл.23-56-62, факс 23-51-82

БРЕСТСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
ул. Ленина, 11, 224006, г. Брест
тел.23-56-62, факс 23-51-62

17.01.2002 г. № 17/1-38
на № 581 ад 26.12.2001 г.

Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
сп. Трусаву А.А.
220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Паведамляем, што ўпраўленнем адукацыі Брэсцкага аблвыканкама, Брэсцкім ІПК, аддзеламі адукацыі райгарвыканкамаў вядзецца пэўная работа па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27.08.2001 года. Распрацаваны і дзейнічаюць абласныя і раённыя праграмы "Аб пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" Брэсцкай вобласці і адпаведных раёнаў і гарадоў (верасень, кастрычнік 2001 года), якія станоўча паўплываюць на сучасную моўную сітуацыю і дадуць магчымасць на высокім узроўні рэалізаваць ідэі новых праграм і прывесці ў гарманічнае размеркаванне агульную колькасці школ па мовах навучання ў 2002 годзе.

Прыняты канкрэтныя меры па паляпшэнні выкладання школьнага курса беларускай мовы і літаратуры.

Пытанне эфектыўнасці выкладання прадмета разглядалася на калегіі ўпраўлення адукацыі 26.10.2000 г. і 04.12.2001 года, на саветах аддзелаў адукацыі Іванаўскага, Драгічынскага, Кобрынскага, Пружанскага раёнаў у 2001 годзе, на педагагічных саветах усіх навучальных устаноў з абмеркаваннем вынікаў і прыняццем мер па ўдасканаленні навучання. На тэрыторыі вобласці з 752 агульнаадукацыйных школ 462 школы з беларускай мовай навучання (61,4%), з рускай – 235 (31,2%), з двума – 55 (7,31%).

За апошні час у вобласці створана сетка ўстаноў адукацыі новага тыпу, якія забяспечваюць патрэбы насельніцтва ў прадстаўленні магчымасці навучання дзяцей на павышаным узроўні. Адкрыты 4 ліцэі і 23 гімназіі, у якіх навучанне вядзецца як на рускай, так і на беларускай мовах (па жаданні бацькоў і вучняў). У вышэй названых установах адкрыты аддзяленні і профільныя класы з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры.

Для навучэнцаў, якія цікавяцца беларускай мовай і літаратурай, актыўна выкарыстоўваюцца часы школьнага кампанента, яны прадугледжваюць дадатковыя заняткі.

Больш разнастойнай стала пазакласная праца. Павялічылася колькасць гурткоў па мове (Іванаўскі, Кобрынскі, Пінскі раёны), больш стала літаратурных (Ганцавіцкі, Івацэвіцкі, г. Пінск). Працуюць клубы, гасцёўні, літаратурныя аб'яднанні. Як ніколі, узлёт узяла паэтычная творчасць.

Вызначаецца тэндэнцыя на павялічэнне профільных класаў, факультатываў, курсаў па выбары навучэнцаў. Так, профільныя класы павялічыліся ў параўнанні з мінулым годам у Столінскім раёне на 2, Ляхавіцкім на 9, Маларыцкім на 4, Пінскім на 9 класаў і г.д.

У Брэсце працуе нацыянальная мастацкая гімназія №3, якая атрымала высокую адзнаку ў снежні 2001 года, ад рэспубліканскай дзяржаўнай інспекцыі сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь. Нацыянальная гімназія №3 г. Брэста адкрыта з мэтай прапаганды, укаранення беларускай мовы, культуры, фарміравання духоўнай нацыянальна-свядомай, высокамаральнай асобы.

Аблвыканкам, упраўленне і аддзелы адукацыі стымулююць і падтрымліваюць адкрыцці нацыянальных навучальных устаноў, якія ствараюцца толькі па ініцыятыве бацькоў і навучэнцаў.

Пры наяўнасці пажаданняў бацькоў і вучняў аб адкрыцці нацыянальнай гімназіі ў азначаных Вамі населеных пунктах, будуць прыняты ўсе меры па іх стварэнні.

**Намеснік старшыні аблвыканкама Л. А. Цупрык.**

# У Докшыцах ігнаруюць нашу мову

Каля мяне "судзіла" у 1999 г. старшыня Докшыцкага раённага суда Аршынава Т., то забараняла мне гаварыць на беларускай мове, цяпер гэтую "суддзю" спачатку панізілі да шарагавага суддзі, а потым выперлі на пенсію.

Але з пытаннем беларускай мовы тут не палепшылася. Яе паплечніца, суддзя Цімачка Я.В., (дарэчы родам з суседняй вёскі Пунішчы, што недалёка ад майго роднага Вашунова) не толькі не ў ладах з правам, але і з мовай, нашай беларускай.

Калі я прыслаў сваёй даверанай асобе Русалоўскай Р. даверанасць на беларускай мове, то яна (Цімачка Я.В.) сказала наступнае: "Доверенность нужна из Литвы заверенная нотариальной канторой на русском языке, а те доверенности (т. е. на беларусском) к одному месту".

Магчыма прыйдзе час і сама суддзя Цімачка Я.В. (мая зямлячка) пойдзе таксама "к одному месту". Я гэта адчуваю і гэта будзе!

*Ю. Гіль, 17.01.2002 г., г. Вільня.*

*До спаць! Паўстаньце грамадою...*
*Янка Купала.*

## Заклік Сакратарыяту Таварыства беларускай мовы

**Грамадзяне Беларусі!**

Ёсць рэальная магчымасць пашырыць сферу выкарыстання беларускай мовы на ўсіх ступенях навучальнага працэсу. Першыя крокі ў гэтым кірунку зрабіла Міністэрства адукацыі, якое ў жніўні мінулага года прыняло Пастанову "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", згодна з якой мясцовыя органы адукацыі з 2002 – 2003 навучальнага года павінны:

- пашырыць сетку дзіцячых дашкольных устаноў і агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай выхавання і навучання ў гарадской мясцовасці;
- адкрыць у кожным раённым цэнтры, раёне горада не менш, чым адну школу з беларускай мовай навучання;
- адкрыць у сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах групы і аддзяленні з беларускай мовай навучання ды шмат іншых канкрэтных мер.

Пэўныя змены ў гэтым кірунку ўнесены ў новы варыянт "Закона аб адукацыі", які неўзабаве будзе канчаткова прыняты. Аднак звароты Таварыства ў абласныя, гарадскія і раённыя аддзелы адукацыі паказалі, што многія з іх, хто па няведанні, а хто і наўмысна, не спяшаюцца выконваць гэтую Пастанову.

Людзі Беларусі! Заклікаем Вас патрабаваць ад мясцовай улады выканання згаданай Пастановы Міністэрства адукацыі. Патрабуйце адкрыцця беларускіх дзіцячых садкоў, класаў, школ, ліцэяў, гімназій, беларускіх плыняў у ВНУ, каледжах і тэхнікумах, Беларускага нацыянальнага універсітэта.

**Будзьма гаспадарамі на сваёй зямлі!**

# Справаздача за 2001 год Пінскай арганізацыі ТБМ

**І квартал**

- Распрацоўка плана працы на 2001 год;
- Распаўсюджванне па школах, дзіцячых садках беларускамоўнай літаратуры: "Усе дзеці Бюлербю", "Дэкларацыя правоў чалавека" і інш.;
- Збор подпісаў за нацыянальны універсітэт;
- Падрыхтоўка і абмеркаванне даклада на рэспубліканскую канферэнцыю "Нацыянальная ідэя і Шляхі кансалідацыі грамадства". Выступ з дакладам: Менск, 25.02;
- Падпісная кампанія на ІІ квартал. Тэхнічная праца па падтрымцы бібліятэк горада;
- Вылучэнне дэлегатаў на УІІ з'езд ТБМ. Афармленне анкет дэлегатаў.

**ІІ квартал**

- Афармленне біяграфічных дакументаў для ўключэння ў энцыклапедыю "Хто ёсць хто ў Р. Беларусь" сябра ТБМ Рамановіча К. Я. (Выдавецтва "Энцыклапедыкс");
- Удзел у УІІ з'ездзе ТБМ. Менск, 20.05;
- Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Пінскага ТБМ; 31.05. (Працяг паўнамоцтваў Рады на пэўны тэрмін у сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі).;
- Пілігрымка сяброў ТБМ у Львоў на сустрэчу з Янам Паўлам ІІ Папам Рымскім;
- Вандроўка сяброў ТБМ на Белае возера (Лунінецкі р-н) прысвечаная 10 угодкам стварэння Пінскай арганізацыі ТБМ;
- Удзел сяброў ТБМ у навучальных семінарах па нагляданню за выбарамі.

**ІІІ квартал**

- Вылучэнне кандыдатаў ва ўчастковыя камісіі па выбарах ад Пінскага ТБМ;
- Збор подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты РБ;
- Вылучэнне дэлегатаў і ўдзел у Кангрэсе дэмакратычных сілаў. Менск, 18.08;
- Удзел у выбарах Прэзідэнта РБ у якасці назіральнікаў;
- Аналіз сітуацыі пасля выбараў, абмеркаванне і выпрацоўка кірунку далейшай дзейнасці. Напісанне 2-х праектаў па вызначаных кірунках;
- Тэхнічная праца па перапісцы з неўрадавымі арганізацыямі (на працягу года).

**ІУ квартал**

- Арганізацыйная праца і афармленне дакументаў на пераезд ТБМ у другое памяшканне;
- Падрыхтоўка рэкламных матэрыялаў аб дзейнасці ТБМ на ангельскай мове. Паездка сяброў ТБМ у Чэхію. Знаемства з дзейнасцю грамадскіх арганізацый, сустрэчы і прэзентацыя ТБМ у сенаце;
- Перапіска і атрыманне афіцыйных дадзеных з Пінскага аддзела статыстыкі па выніках перапіску насельніцтва 1999 г.;
- Арганізацыя семінара "Я магу жыць лепей" Выкл. А. Хатэнка;
- Падрыхтоўка і ўдзел у правядзенні "Круглых сталоў" сярод Пінскіх неўрадавых арганізацый;
- Святочная навагодняя праграма з наведваннем панам Зюзям і Снягуркай сем'яў дэмакратычнай супольнасці г. Пінска;
- За 2001 год паседжанні ТБМ праводзіліся 19 разоў;
- Сярэдні паказчык прысутнасці на паседжаннях сяброў ТБМ – 52%;
- Аплата сяброўскіх складак – 87%.

Прынята і зацверджана на сходзе Пінскай арганізацыі ТБМ 10.01.2002 г.
**Старшыня Савіч.**
**Сакратар Зялінскі.**

# Не цурайся мовы сваёй

Ёсць возера Байкал. Вялікае, паўнаводнае, магутнае. Каля трохсот рэк нясуць у яго свае воды, і ведае гэта возера ўвесь свет. А ёсць маленькае возера Карцэя на Беларусі. Сілкуюць яго толькі падземныя крыніцы. Зараслі яны балотнай травою, зацягнуліся багнай. Ні возера, ні нават назвы яго не ведаюць не толькі ў свеце, але і ў сваім раёне.

Ёсць дзве мовы – руская і беларуская. Адну ведаюць, на ёй размаўляе 1/6 частка свету. Другую – беларускую на зямных абшарах ведаюць толькі беларусы. Не шануе ёй і ў сваёй роднай старонцы.

Але я веру: як жыве магутнае возера Байкал, так будзе жыць і маленькая Карцэя. І абавязкова праб'юцца праз балота і твань крыніцы, ударыць празрыстымі струменямі да сонца, да свету. Я веру: мова наша будзе жыць, і беларусы будуць ведаць яе, шанаваць, размаўляць і атрымліваць ад гэтага такую асалоду, як стомлены вандроўнік набіраецца сілаў, дакранаючыся да крынічнага струменю празрыстай, гаючай вады.

**Сафія Табола, Шаркаўшчынскі р-н.**





# Святы Валянцін узор для ўсіх і закаханых

*"Любоў – цярплівая, міласэрная.*
*Любоў не зайздросціць,*
*Не шукае пахвалы, не ганарыцца;*
*Яна не дапускае распуты, не шукае выгоды,*
*Не раздражняецца, не памятае зла,*
*Не цешыцца з несправядлівасці,*
*Але радуецца з праўды.*
*Яна ўсё церпіць, усяму верыць, на ўсё*
*Спадзяецца, ўсё перапрывае. Любоў ніколі не знікае".*
*(І Кар. 13, 4 – 7)*

Існуе адзіная любоў і адзіная крыніца любові – Бог, які стварыў чалавека і надзяліў яго гэтым найвышэйшым дарам. Пацвярджаючы гэтыя словы, святы Ян піша: "Бог ёсць Любоў, і той хто прабывае ў любові, прабывае ў Бога, а Бог у ім" (І Ян. 4, 16).

У штодзённым жыцці сустракаемся з любоўю бацькоўскай, братняй, нарачоных, сужонскай. Кожны чалавек мае сваё ўяўленне аб любові, але Святое Пісанне навучае нас любові ахвярнай, самаадданай і бескарыслівай. Шматлікія святыя сваім жыццём сведчылі аб такой узвышанай любові. Адным з такіх з'яўляецца вядомы ўсяму свету св. Валянцін, святар з г. Тэрну (Італія).

Паданне аб жыцці святога, памяць пакутніцтва якога адзначаецца 14 лютага, сведчыць, што нарадзіўся ён у Рыме на пачатку ІІІ-га стагоддзя ў хрысціянскай высокароднай сям'і. Як сумленны святар, ён клапаціўся пра бедных, хворых і церпячых. Згодна з легендай, суровай зімой убачыў ён жабрака, які замярзаў ад холаду. Валянцін адразу ж зняў з сябе вопратку, аддаў яму і заклікаў не губляць духу і надзеі. У той жа самы вечар наведаў яго юнак і аддаючы адзенне, сказаў: "Вось адзенне, у якое ты апрануў сёння самога Хрыста. Ва ўзнагароду за ўчынак міласэрнасці Збаўца дае табе дар аздараўлення". Юнак знік. Трымаючыся гэтага аб'яўлення, святы вылечыў не адно зраненае цела і не адну збалелую людскую душу. Неўзабаве ён сам быў схоплены і адасланы да прэфекта Рыма, за цэсара Клаўдзія ІІ, які спачатку прымушаў яго адрачыся ад веры хрысціянскай, а потым, калі атрымаў адмоўны адказ, загадаў бічаваць яго і забіць. Пакутніцкую смерць святы Валянцін прыняў 14 лютага 269 года.

"Ніхто не мае любові большае за тую, калі хто аддае жыццё сваё за сяброў сваіх". (Ян. 15, 13).

Жыццёвы шлях святога Валянціна стаў яскравым прыкладам, які пацвярджае словы Евангелля.

Ужо ў IV стагоддзі магіла святога Валянціна ў Рыме мела асаблівы культ. Папа Рымскі Юлій І (337-352) пабудаваў над ёю базыліку святога. Культ св. Валянціна быў распаўсюджаны як на Захадзе, так і на Усходзе. Дарэчы, у той час яшчэ існавала адзінае, непадзельнае Хрысціянскае веравызнанне, таму св. Валянцін ужо на працягу семнаццаці стагоддзяў па праву лічыцца заступнікам усіх, не зважаючы на канфесійны падзел. Нездарма на Беларусі, дзе скрыжаванне культур, шляхоў і рэлігій, у Смалявічах будуецца храм у яго гонар, касцёл св. Валянціна.

"Даю вам новае прыказанне, – кажа Хрыстус, - каб вы любілі адзін аднаго так; як Я палюбіў вас; каб і вы любілі адзін аднаго," (Ян. 13, 34).

Ахвяраваўшы сваё жыццё з любові да Бога, св. Валянцін дае прыклад узнёсласці і глыбіні чалавечых пачуццяў, і як апякун усіх закаханых, злучае нябеснае і зямное. Давайце паразважаем, маладыя людзі, ці мы сёння не матэрыялізуем і шукаем толькі зямнога шчасця? Святкуем у памяць св. Валянціна дзень закаханых і хрысціянскай дабрыні, а самі душою мы далёка ад Бога і духоўнай велічы. І што дадуць тыя цялесныя пажаданні, тыя кветкі, паштоўкі, падарункі без высокароднай душэўнай чысціні і вернасці, адным словам, без глыбокай веры і хрысціянскай адказнасці? Таму вельмі важна, каб кожная маладая пара, уступаючы у шлюб, прымала Божае бласлаўленне праз Святыя Сакраманты. Бо калі мы будзем разлічваць на свае уласныя сілы, то неўзабаве для многіх настане расчараванне, непаразуменне, а нават і нянавісць, якая прыводзіць не толькі да вялікіх цярпенняў але і да разводаў. У пакінутых дзяцей-сірот пры жывых, здаровых і маладых бацьках, наш эгаізм і бяздушша адбіраюць шчаслівае дзяцінства. Вырастаючы, дзеці адплачваюць нам такім жа бяздушным эгаізмам.

Вельмі мала і амаль не ў "модзе" цяпер перадшлюбная чысціня юнака і дзяўчыны, а ў шлюбе часта не зберагаецца шлюбная вернасць, што і вядзе да бяздумных крокаў і разводаў. Шукаючы кагосьці "лепшага", мы атрымліваем тое, чаго самі вартыя. Гэтаму нямала спрыяюць розныя непрыстойныя кінафільмы, безбожнае асяроддзе, наркаманія, духоўная пустэча. На вялікі жаль, у Беларусі на сённяшні дзень распадаецца больш за 50% маладых сем'яў. У чым справа? Чаму маладыя, прыгожыя людзі, якія на першы погляд, месяц ці паўгода таму моцна любілі адзін аднаго, не маглі жыць адно без аднаго, раптам сталі зусім чужымі альбо нават ворагамі. Адказ просты: тое, што лічылася любоўю, было толькі самалюбствам, эгаізмам і самапрэзентацыяй. Там не было сапраўднай самаахвярнай, духоўна-маральнай любові, не было моцнага духоўнага фундаменту.

Разбураныя і маральна аслабленыя сем'і аслабляюць народ і ўсю краіну. Па волі ж Бога, сужэнства з'яўляецца адзіным і непарыўным.

"Ці не чыталі вы, што Творца ад пачатку стварыў іх, як мужчыну і жанчыну. І сказаў: "Таму пакіне чалавек бацьку і маці і паядначецца са сваёй жонкаю, і стануць двое адным целам. Што злучыў Бог, чалавек няхай не разлучае". (Мц. 19, 4-6).

Гэтыя словы Святога Пісання падкрэсліваюць не толькі еднасць фізічную, але і еднасць веры, клопату пра сям'ю, еднасць думак і жаданняў. Ніхто з іх не называе чаго-небудзь сваім, бо ўсё маюць агульнае. І хто можа пярэчыць, што хрысціянства не стаіць на абароне, як духоўнасці чалавека, так і яго культурна-навуковага прагрэсу? Цяпер, дзякуючы разважліваму зразуменню і павароту народаў і сістэм да Бога, хрысціянства і духоўнасці, трэба старанна без нараканняў і злосці выправіць зло зробленае атэізмам, аздаравіцца духоўна самім і адраджаць у духоўна-культурнай прасторы сучаснае пакаленне.

Паважаная моладзь! Вам належыць будучыня. Вы – кавалі вашага сапраўднага шчасця, загартоўвайце і далучайце ваш дух, па прыкладу св. Валянціна, да Духу Божага, вечнага! Хто мы сёння, чаму мы пакінуты на свае сілы і пачуцці, з нашымі слабасцямі і самотаю? Таму што якая вера – такі дух, які дух – такое сэрца, жыццё, сям'я, народ, культура. Вось тая рэальнасць і рэальнасць твайго жыцця, твая любоў, твая школа, твой двор і дом.

Святы Валянцін на абразках паказаны ў святарскім адзенні, што азначае не толькі ягоную годнасць паклікання, але і вернасць да смерці свайму пакліканню і абавязку прысягі Богу. У адной руцэ ён трымае келіх, бо як святар служыў святую Літургію і раздаваў святое Прычасце – Цела і Кроў Хрыста, бо верны свайму святарскаму абавязку праліў сваю кроў за веру, за Хрыста. Ён сёння заклікае нас да Бога і жывой практыкуючай веры, да сапраўднай культуры духу, якая пераўзыходзіць сваёй веліччу і дасканаласцю ўсё матэрыяльнае, бо яна вечная.

У другой руцэ св. Валянцін трымае меч, сімвал катавання і адначасна знак мужнасці яго духу, прыклад для нас, мужчын. Нам трэба ўмець не толькі трымаць у руцэ і дарыць кветкі, але быць мужнымі і моцнымі воляю ў жыццёвых выпрабаваннях, як гэта ўласціва сапраўдным хрысціянам, дапамагаць ўзаемнасцю і быць вернымі да канца. Бог наша вечная ўзнагарода! !Бо якая карысць будзе чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, а сваю душу загубіць". (Мк. 8, 36).

Жадаю Вам, маладыя людзі, сапраўднага шчасця, шчасця духоўнага і фізічнага ў гэтым жыцці і на небе!

З павагаю да ўсіх Вас!

*Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.*

# Новае рэгінальнае выданне. Адметнае і цікавае.

У снежні мінулага года на Гарадзеншчыне з'явілася новае рэгіянальнае выданне пад назовам "Аніматарскі часопіс Зэльвеншчыны "Бэз". Выдала яго сям'я Качукоў: рэдактар – Юры Качук, намеснік рэдактара – Лілія Качук (яго жонка), тэхнічны рэдактар – Юлія Качук. Адрас часопіса: А/с 15, 231930, Зэльва, Беларусь. Тэлефон/факс (1564) 2-19-30.

Пачынаецца часопіс "Малітвай за Беларусь", дзе чытаем: "*Божа ўсемагутны... Не карай нас бяспамяцтвам і ня дай забыцца сьвятой мовы нашай беларускай, гісторыі і традыцыяў нашых. А дай сілы і шчырасці з адданай любоўю і пашанаю прымнажаць спрадвечнае і высакароднае, што стварылі да нас продкі нашы*".

Часопіс багаты на адмысловыя рубрыкі. У рубрыцы "Даўніна і сучаснасць" падаецца нарыс пра старажытнае мястэчка Зэльву. Аўтар нарысу – Юры Качук. Выкарыстаўшы багатую літаратуру, ён падае цікавыя звесткі пра тое, як Зэльве двойчы давялося пабыць "сталіцаю": першы раз – сталіцаю цыганоў Літвы і Кароны, а другі – сталіцаю гульнёвага бізнесу ва Усходняй Еўропе падчас правядзення штогадовых Ганненскіх кірмашоў.

Маляўніча, захапляльна апісваецца Зэльвенскі кірмаш, які ў свае лепшыя часы па значнасці саступаў толькі Лейпцыгскаму ў Еўропе (тут падаецца тэкст з кнігі Міхася Скоблы "Дзярэчынскі дыярыюш"). 24 чэрвеня 2001 года была здзейснена ўдалая спроба адраджэння Зэльвенскага Ганненскага кірмашу. Цудоўнае свята зэльвенцаў знайшло тут выразнае апісанне з падачай трох фотаздымкаў.

Наступная рубрыка – "Знак свабоды і веры" – прысвечаны выбітнай хрысціянцы і паэтцы Ларысе Геніюш – "91 год з дня нараджэння Ларысы Геніюш". Змяшчаюцца і вершы знакамітай паэткі: "Мая мова", "Над Зальвянкай", "Зэльва", "Святы вечар", "Каляда". У гэтай жа рубрыцы "Паэзія" чытаем творы і іншых знаных зэльвенцаў:

Алены Таболіч, кандыдата філалагічных навук, дацэнта Менскага лінгвістычнага універсітэту, аўтара кнігі "Срэбны дождж" (1999), - пераклады яе з англійскамоўнай паэзіі;

Міхася Скоблы, лаўрэата літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча, аўтара 6 кнігаў, - вершы "Касьцёл у Дзярэчыне", "Ода баразьне" ды іншыя, а таксама яго вершаваныя пераклады з украінскай і польскай моваў;

Валянціна Дубатоўкі, фундатара кнігаў Л. Геніюш, М. Скоблы, Ю. Голуба, аўтара вершаваных, празаічных і публіцыстычных твораў, - вершы і гістарычныя нарысы "Дзярэчынскі Дамініканскі касцёл, кляштар" ды іншыя.

Трапілі ў "Бэз" таксама паэтычныя творы іншых аўтараў – зэльвенцаў ці звязаных сваёй працай з мястэчкам Зэльва; у прыватнасці Яніны Якімчык, Анатоля Валюка, Валера Жамойціна, проза Юры Качука "Ружакрыж" і інш.

У рубрыцы "Мастацтва Зэльвеншчыны" змешчаны нарыс Ю. Качука "Палітра цудаў" – пра мастака Васіля Шамрука. Падаюцца тут і графічныя працы гэтага аўтара: "Хрыстос у пустыні", "Творчы роздум", "Дуб", "Вядзьмарка", "Сон", "Родная вёска", "Млын на Зальвянцы" ды іншыя.

У рубрыцы "Слаўныя людзі Зэльвеншчыны" выступае Пётр Марціноўскі, кіраўнік Зэльвенскай літаратурнай суполкі, былы настаўнік Дзярэчынскай сярэдняй школы, з нарысам "Помнік герою і аўтару" – пра знанага філосафа з Зэльвеншчыны, кандыдата філасофскіх навук, дацэнта, Міхала Іоську, аўтара шматлікіх артыкулаў і кнігаў, сярод якіх выдатная кніга пра Мікалая Судзілоўскага. Побач змяшчаецца і ўрывак з успамінаў гэтага навукоўца пад назвай "Гавайская адысея доктара Руселя".

Напрыканцы часопіса – яшчэ дзве невялікія рубрыкі – "Дзіцячыя гульні " і "Стравы Зэльвеншчыны", дзе падаюцца апісанні гульні "шкар" і страваў "цярцюха" і "кішка, альбо крывянка".

Часопіс пакідае надта добрае ўражанне, хоць гэта першы букет "Бэзу", першая ластаўка. Годна і аформлена выданне, яго ілюстрацыі досыць выразныя, вокладка імітуе колер бэзу. І мова, і стыль часопіса таксама прыдатныя.

Спынюся на некаторых недахопах моўна-стылёвага плану. Тут заўважаюцца памылкі, характэрныя для нашай перыёдыкі ўвогуле. І каб іх унікнуць, падаю ўсе ненарматыўныя напісанні і словаўжыванні.

Найперш пра небеларускае напісанне назвы мястэчка, з літарай ***е "Зельва"***. Гэтая графічная форма скапіяваная з польскае ці расейскае мовы. Аднак польскае напісанне ***Zelwa*** чытаецца ***я [зэл'ва]***. Пры мяккім жа першым гуку было б ***Zielwa*** (як і ***ziemia***, дзе мяккасць зычнага абазначаецца літарай ***"i"***). У расейскай мове літара ***"е"*** можа абазначаць, як мяккасць папярэдняга зычнага ***(земля)***, так і цвёрдасць ***(демарш, демонтаж)***. У жывой народнай мове назва мястэчка гучыць з цвёрдым гукам ***[з]***: ***"Зэльва"***. Такое напісанне замацаванае Тэрміналагічнай камісіяй Беларускай энцыклапедыі, якую (камісію) ўзначальваў К. Крапіва. У 12-томавай "Беларускай энцыклапедыі" (Т.5. Мінск, 1972, с.7) таксама бачым: "Зэльва, гар. пасёлак (з 1940), цэнтр Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобласці, на левым беразе р. Зальвянкі (прыток Нёмана)". Тое самае чытаем і ў 18-томавай "Беларускай энцыклапедыі" (Мінск, "Беларуская энцыклапедыя". Т.7, 1998, с. 121). У такім напісанні – ***Зэльва*** – падаюць гэтую назву і ўсе акадэмічныя беларускія слоўнікі 80-90 гг. Дарэчы, нармаванае напісанне ***"Зэльва"*** падаецца і на старонках "Бэза" – у цытатах з кнігі Міхася Скоблы "Дзярэчынскі дыярыюш": "У XVIII ст... невялікае мястэчка Зэльва. Зэльвенскі рэстаран "Зальвянка" [с.4].

Сустракаюцца часам памылковыя напісанні некаторых слоў: *пражыла бы жыццё (*с.8, замест правільнага: ***пражыла б***; бо часціца ***бы*** пішацца толькі пасля слова, якое канчаецца на зычны, напрыклад, ***пражыў бы***); *з кашулей* (с.44, замест ***з кашуляй***), *з маршчызнамі* (с.29, трэба: ***маршчынамі*** ці ***зморшчынамі***), *кялішкі* (с.49, замест ***кілішкі***), *жонкіных бацькоў* (с.50, трэба: ***жончыных***, як і ***матчыных***). Сустакаюцца і небеларускія словы (і іх формы), сінтаксічныя канструкцыі: *металічная банка* (с.52, па-беларуску: ***бляшанка***), *бульбяная цёрка* (с.53, трэба: ***тарка***), *разжарыць сала* (с.53, сала ***пякуць***), *зажарка* (с.53, а трэба: ***смажанка***); *яна у двух-трох кроках ад іх* (с.47, трэба: ***крокаў за два-тры***), *адразу паімчэў у гараж за аўтамабілем* (с.51). Тут штучнае *паімчэў* і канструкцыя *за аўтамабілем*, бо атрымліваецца, што ён даганяў аўтамабіль (імчаўся следам за аўтамабілем). Паводле ж зместу трэба: ***паімчаўся ў гараж па аўтамабіль***; *праваджаць аўтобус* (с.47, а трэба: ***праводзіць***); *па накавальні лязь ды лязь* (с.45, а па-беларуску: ***па кавадле лясь ды лясь*** (ад ***ляскаць***, а не *лязгаць*); *тэкст пасля пераводу з лацінскага* (с.28, а трэба: ***перакладу***), *касцёл быў закрыты* (с.28, лепш: ***зачынены***), *адной і той жа мясціны* (с.29, лепш: ***той самай...***), *кляштар быў узнесены ў сярэдзіне XVII ст.* (с.26, трэба: ***пабудаваны***), *разьба па дрэву* (с.6, трэба: ***па дрэве***). Беларускай мове неўласцівыя дзеяслоўныя формы (дзеепрыметнікі) з суфіксамі ***–ем-, -ім, -уч-, (-юч-), -ач-(-яч-).*** Але ў тэксце яны выкарыстоўваюцца: *у пачынаючым XXI ст.* (с.6), *адхіляемае* (с.46), *ідучае* (с.46).

Крыўдная памылка друку на с.5 (*куляў* замест ***куфляў***) прыводзіць да непаразумення тэксту: *"Прыняўшы пару куляў з рук пані Валабрыньскай, захмялелы купец вылазіў на божы свет і дзіву даваўся"*.

Гэтыя правапісныя і граматычныя недакладнасці былі адзначаны з той мэтай, каб на іх звярнулі ўвагу і каб іх не паўтараць ў наступных нумарах рэцэнзаванага часопісу, а таксама ў іншых тэкстах перыядычных выданняў.

А ўвогуле ж часопіс "Бэз" быў для мяне, як чытача, прыемным букетам дзівоснага квету, такога вабнага і адметнага водару з роднай мне Зэльвеншчыны.

Шчыры дзякуй землякам за гэты падарунак. Ён яшчэ раз нагадаў мне пра былыя мае сустрэчы з знакамітымі зэльвенцамі: Ларысай Геніюш, Аленай Таболіч, Міхасём Скоблам, Пятром Марціноўскім, Міхалам Іоськам.

Хацелася бачыць на старонках часопіса "Бэз" і нарысы пра славутых навукоўцаў, педагогаў, аграномаў, лекараў, бо Зэльвеншчына можа ганарыцца сваімі землякамі – акадэмікамі, дактарамі навук рознага профілю – фізікамі, біёлагамі, медыкамі, лінгвістамі ды інш.

І да хуткай сустрэчы з наступным букетам (нумарам) "Бэзу"!

***Павел Сцяцко, прафесар.***

Алесь Грудзіна

# ШКЛОЎ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Усе гэтыя абставіны паўплывалі на тое, што Шклоў паступова страчваў сваё значэнне, якое ён меў раней сярод гарадоў Беларусі. На працягу амаль усяго 19 стагоддзя жыхары Шклова рабілі рознага роду спробы да аднаўлення ранейшай эканамічнай магутнасці мястэчка. На працягу 20 гадоў (1836-1857 г.г.) найбольш развітым быў гандаль гарбатай, калі з Прусіі прывозіліся ў яўрэйскіх фургонах без аплаты пошліны гарбаты прыблізна на 4 мільёны рублёў. Прывазная гарбата змешвалася на месцы з травой "срыпнем", якую збіралі ў наваколлі Шклова, і збывалася на месцы гандлярам, што прыязджалі з усіх канцоў Расіі, не выключаючы купцоў пецярбургскіх. Апошнія большай часткай не куплялі гарбату за грошы, а абменьвалі на чырвоныя і каланіяльныя тавары.

Па заканчэнні Севастопальскай вайны і паніжэнні пошліны на гарбату, а галоўнае ў выніку энергічнага праследавання кантрабандыстаў з боку мясцовых уладаў, кантрабандны гандаль гарбатай канчаткова спыніўся. У самы яго разгар у Шклове мелі свае склады не толькі мясцовыя купцы, але і купцы з Коўны, Горадні, Вільні і царства Польскага.

Ездзілі шклоўскія купцы два разы ў год на ляйпцыгскія кірмашы, дзе куплялі шаўковыя, суконныя вырабы, футравыя і іншыя тавары на агульную колькасць да 25 мільёнаў рублёў. Тавар гэты дастаўляўся ў яўрэйскіх бухтах на адну трэць без аплаты пошліны і прадаваўся пераважна на месцы, як гандлярам, так і памешчыкам. Аднак гэты гандаль паступова падаў і ў 1857 годзе зусім знік.

Гандлявалі ў Шклове і жалезнымі косамі, якія штогод у траўні прывозілі з Аўстрыі на 100 тысяч рублёў. Працвітаў рыбны гандаль. Толькі селядцоў, якія раскупляліся пераважна на месцы, дастаўлялася з Рыгі на 50 тысяч рублёў, ды не менш як на гэты суму розных іншых гатункаў рыбы. З Масквы і Курска дастаўляліся паўкажушкі, з Арлоўскай і Кіеўскай губерняў – крышталёвы і фаянсавы посуд, з паўднёвых губерняў да чатырох тысяч коней. На месцы шклоўскія прамыславікі скуплялі вядомыя ў свой час у Расіі вырабы шклоўскіх фарбавальшчыкаў і развозілі на Палтаўскі, Ніжагародскі, Каралевіцкі, Нежынскі і іншыя кірмашы. Скуплялі смалу, дзёгаць, вапну, камень, дошкі і на берлінах накіроўвалі ў Кіеў. Пяньку дастаўлялі ў Рыгу. Але ў канцы 50-х гадоў кірмашы сталі траціць значэнне і абарот зменшыўся. На 1882 год абарот кірмаша склаў каля 25 тысяч рублёў.

Тым не менеш Шклоў заставаўся буйным мястэчкам Магілёўскай губерні. У 1860 годзе колькасць жыхароў склала 5977 мужчын і 6444 жанчын розных узростаў. З 1326 дамоў 30 былі мураваныя. Мелася 6 праваслаўных цэркваў, рымска-каталіцкі касцёл. Яўрэйскае багаслужэнне праходзіла ў дзвюх сінагогах і 22 малітоўных дамах. Усе манастыры да гэтага часу былі зачынены. Акрамя таго, у Шклове была казённая яўрэйская навучальня першага класу і тры сельскія школы для дзяцей сялян пры прыходскіх цэрквах. Дзейнічалі яўрэйская бальніца, этапны дом, паром цераз Днепр.

У 1863 – 1864 гадах у Расіі пачалося чарговае нацыянальна-вызваленчае паўстанне, якое ахапіла Польшчу, Літву, Украіну і Беларусь. 22 красавіка 1863 года ў фальварку Чарнаручча сучаснага Шклоўскага раёна пад кіраўніцтвам палкоўніка Антонія Аленскага таксама быў створаны аддзел паўстанцаў. Аддзел пачаў весці агітацыю сярод сялян у падтрымку паўстаўшых. Становы прыстаў Шклова Вейль адправіў у Магілёў адпаведнае паведамленне. З Магілёва была паслана стралковая рота з 20 казакамі, якія напалі на след аддзела і 27 красавіка аддзел паўстанцаў быў разгромлены. Пазней у Менскай губерні былі злоўлены і расстраляны кіраўнікі паўстанцаў палкоўнік Аленскі і ксёндз Шклова Пржыалкоўскі. Чарговае паўстанне на Беларусі было задушана, але ўрад вымушаны быў часова зменшыць выкупныя плацяжы сялян.

З 1869 года Шклоў з наваколіцамі Забрамнае, Сямёнаўка, Францаўка, Гарадзянка, Пікавічы і Прыют належалі памешчыку Ваейкаву. Зямельныя ўладанні складалі 6590 дзесяцін, з іх 915 – ворыва і 4641 – лесу. У мястэчку працавалі вадзяны млын, два дрэваапрацоўчыя заводы з гадавым даходам 1020 рублёў, гарэлачны склеп, які даваў даход 5000 рублёў, паром – 300 рублёў, чыншы з арэндай лавак прыносілі даход 2500 рублёў. Знаходзіліся ў Шклове станавая кватэра прystава першага стану (паліцэйскі чыноўнік Расійскай імперыі, якому былі падведамны некалькі валасцей), мяшчанскае і валаснoe праўленне. Сярод яўрэйскага насельніцтва ўсімі справамі кіравала асобная рада – кагал. Дзейнічала ў мястэчку паштова-тэлеграфная кантора.

Сетка вуліц, якая канчаткова склалася ў канцы 18 стагоддзя, была ў асноўным прамавугольная. Вуліцы былі пракладзены строга па вуглах будынка ратушы, з поўдня на поўнач – падоўжныя і з захаду на ўсход – папярэчныя. Падоўжныя насілі назвы Мяшчанская (цяпер Савецкая), Сялянская (Дзікуна), Прабойная (Ленінская), Ганчарская, Карпілаўка (апошняя прылягала да былога возера). Папярэчныя насілі назвы Маставая (Пралетарская), Дняпроўская, Паштовая. Пра паходжанне назваў вуліц вядома, што Маставая ў свой час была замошчана драўляным насцілам ад ракі Днепр да вуліцы Прабойнай, а на Ганчарнай прадавалі ў кірмашовыя дні ганчарныя вырабы.

Нярэдкімі ў мястэчку былі выпадкі пажараў. Пра адзін з такіх выпадкаў паведамлялася ў газеце "Могилевские губерские ведомости" за 11 сакавіка 1898 года, дзе гаварылася, што 3 лютага перад вечарам адбыўся ў Шклове, у самым цэнтры мястэчка, вялікі пажар. Згарэлі запоўненыя мукой свірны, якія даволі шчыльна прылягалі з абодвух бакоў да будынкаў. Далей паведамлялася, што выпадкі пажараў у Шклове за апошні час надзвычай часта паўтараюцца, бо па прыкладу іншых гарадоў тут няма вольнай пажарнай каманды. А за спыненне ўчарашняга пажару трэба быць удзячнымі энергіі саміх жыхароў, якія голымі рукамі расхоплівалі палаючыя бярвенні.

Прыкладна такім заставаўся Шклоў амаль да канца 19 стагоддзя. Каланіяльны характар палітыкі расійскага царызму на Беларусі выразна тут праявіўся. У першую чаргу у надзвычай цяжкай сістэме падаткаў і павіннасцяў, якія эканамічна абяссільвалі сялянства і гараджан. Эканамічнае становішча горада па-ранейшаму пагаршалася і, як вынік, змяншалася насельніцтва. На рубяжы 19-20 стагоддзяў у Шклове пражывала каля 7200 чалавек і ён канчаткова ператварыўся ў невялікае, падобнае на шмат іншых валасных мястэчак паселішча, асноўнай часткай жыхароў якога былі яўрэі.

Пра становішча сялян у гэты час можна даведацца з ліста сялянкі Агаф'і Цішковай з вёскі Сліжы сучаснага Шклоўскага раёна, якое яна напісала рускаму пісьменніку Льву Мікалаевічу Талстому. Дзяўчына прыслала доўгае апісанне свайго жыцця. Вось некаторыя вытрымкі з яго: "5 лютага 1910 года мне сконччыўся 21 год Але я нічога не магу ўспомніць светлага, радаснага і праўдзівага, няма ніводнага дня, які не быў бы азмрочаны чымнебудзь. З шасці гадоў я памятаю сваё жыццё, але радасці ў ім няма. Калі мне было 6 гадоў, то я павінна была заставацца дома са сваёй малодшай сястрой і братам, за якімі я павінна была сачыць і таксама прыгатаваць свінням на вечар, пакуль маці не прыйдзе з поля з работы. А калі мне пайшоў 9 год, то я ўжо вучылася на полі працаваць і вадзіла пасвіць каня, мыла бялізну. Не было яшчэ і 13 гадоў – я была аддадзена памешчыцы за 20 рублёў у год..."

Далей Агаф'я апісвае ўсю тую няспраўядлівасць, якую ёй давялося перанесці, працуючы ў памешчыцы. Яна піша: "... у маёй душы кіпела злосць супраць гэтай несправядлівасці... Я з болем і раздражненнем сышла з дому і хацела ўтапіцца, але гэтага не зрабіла. Пайшла ад памешчыцы. Але я ўжо зненавідзела ўсіх і саму сябе, і маё жыццё і не верыла ўжо, што ёсць дзенебудзь справядлівасць".

Калі Агаф'і было 19 гадоў яна гасцявала ў свайго брата ў Ваўкавыску, дзе навучылася крыху шыць. У канторы Зінгер яна ўзяла машыну за 136 рублёў і думала работай зарабіць сабе грошай. Але, каб канчаткова за машыну выплаціць, патрэбна было яшчэ 80 рублёў. Такія грошы яна зарабіць не магла і пісьмо заканчвалася просьбай аб дапамозе.

Гэтая споведзь не магла не ўразіць Л. М. Талстога. Замест забітай, цёмнай і пакорлівай істоты, якой звычайна ў літаратуры тых гадоў малявалі вясковую жанчыну, са старонак гэтага незвычайнага, на сарака двух аркушах вучнёўскага сшытка ліста, скрозь каравыя, непісьменныя радкі праглядваўся для яго новы вобраз маладой беларускай сялянкі, якая стала на цяжкі шлях барацьбы за сваю знявaжаную чалавечую годнасць, вострa адчуваючы сацыяльную несправядлівасць і не жадаючы мірыцца з ёй.

Прастадушна выкладзеная ў пісьме гісторыя сям'і Цішковых як у кроплі вады адлюстравала жыццё беларускага селяніна больш чым за паўстагоддзе. Шматдзетныя бацькі Агаф'і Цішковай, якія імкнуліся цяжкай працай зладзіць моцную гаспадарку, але яна ўсё-такі развалілася пасля выдзялення сыноў, адчула на сабе ўпадак і развал старой вёскі. Адзін сын працуе кандуктарам на чыгунцы, другі – настаўнік і, нарэшце, сама карэспандэнтка ўпарта змагаецца за незалежнасць, за выхад на "сваю дарогу".

Л. М. Талстой напісаў прадмову да публікацыі і перадаў разам з лістом А. Цішковай супрацоўніку газеты "Русское слово" з прыпіскай, каб яго надрукавалі. Але так і не дачакалася Агаф'я публікацыі свайго аповеду. Грошы 80 рублёў рэдакцыя ёй выслала, а надрукаваць споведзь сялянскай дзяўчыны не адважылася. "Русское слово" не задавальняла рэзкасць сацыяльнага выкрыцця маладой беларускі.

У самым канцы 19 стагоддзя праз Шклоў пралягла чыгунка, якая звязвала Санк-Пецярбург з Адэсай. Тагачасны міністр Шляхоў зносін А.К. Крывашэін які быў тут па службовых справах, набыў у мясцовага памешчыка Ваейкава Шклоўскі маёнтак. У 1895 годзе Апалон Канстанцінавіч Крывашэін выйшаў у адстаўку і пасяліўся канчаткова ў Шклове. У 1898 годзе ён будуе тут кардонную фабрыку, якая выпускала кардон і абгортку. У 1902 – 1903 гадах ва ўрочышчы Забрамнае Крывашэін закладвае сядзібу, якая фармуецца каля Дняпра на месцы ляснога гаю. Яна ўключыла парк, вялікі сад (каля 25-30 гектараў), прамысловую і гаспадарчую зоны. Доўгімі алеямі парк звязваўся з садам, фабрыкай, прычалам на Дняпры, утвараючы адзіны комплекс. У цэнтры парку быў пабудаваны аднапавярховы прысядзібны дом.

У пачатку 20 стагоддзя фабрыка пераходзіць у "Акцыянернае таварыства рускай кардоннай вытворчасці", расшырае свае магутнасці і становіцца буйным прадпрыемствам з колькасцю рабочых 287 чалавек. Асноўнай яе прадукцыяй з'яўляецца папера, а сыравінай служаць багатыя навакольныя лясы.

У гэты час на Беларусі, як і ўва ўсёй вялікай Імперыі, пачынае ўсё мацней абвастрацца сацыяльная і нацыянальнае пытанне, наспявае рэвалюцыйная сітуацыя. Пачынаюць ствараццa сацыял-дэмакратычныя і народніцкія арганізацыі і партыі, ажыццяўляецца беларускі нацыянальны рух. У сувязі з руска-японскай вайной абвастраецца крызіснае становішча ў прамысловасці. Усе гэтыя абставіны садзейнічалі хуткаму росту рабочага руху.

У 1903 годзе на шклоўскай фабрыцы ўспыхнула забастоўка. Рабочыя патрабавалі паляпшэння матэрыяльнага становішча, скарачэння рабочага дня, павелічэння зарплаты. 16 верасня 1903 года начальнік губернскага жандармскага ўпраўлення палкоўнік Палякоў дакладваў у Дэпартамент паліцыі: "З другой паловы ліпеня гэтага года стала прыкметным распаўсюджванне шкодных ідэй сацыял-дэмакратычнага характару, якімі заражаны амаль усе рабочыя на фабрыцы і ў майстэрнях горада Копысі і мястэчка Шклова і прылеглых да гэтых пунктаў вёсак..."

У гэтым жа годзе прайшла стачка і дэманстрацыя ўсіх рабочых Шклова пад лозунгамі: "Далоў царскія законы!", "Далоў царскія суды", "Далоў самадзяржаўе!" Пасля растрэлу рабочых 9 студзеня 1905 года ў Пецярбургу, па ўсёй Расіі пачаліся рабочыя стачкі і дэманстрацыі, разгромы памешчыцкіх маёнткаў, паўстанні ў арміі і на флоце. Як толькі паведамленне пра гэта дайшло да Шклова, мясцовыя сацыял-дэмакраты арганізавалі забастоўку пратэсту, актыўную ролю ў якой адыгралі рабочыя і рамеснікі. У ноч на 20 красавіка 1905 года ў Шклове была спалена гандлёвая база, а 26 красавіка – цэнтральная фабрычная канюшня. У ліпені-жніўні праходзілі сходы, маёўкі рабочых і сялян. 6 жніўня на вуліцы Шклова быў забіты паліцэйскі ўраднік. Магілёўскі губернатар быў вымушаны выклікаць з Вільні казакоў і 13 верасня ў Шклове і Смянтанцы яны ўчынілі збіванне розгамі рабочых і сялян.

Аднак 13 кастрычніка зноў забаставалі рабочыя фабрыкі і дробных майстэрняў. "Спынілі работу паштовая кантора, навучальныя ўстановы, закрыты пітныя лаўкі..." – так дакладваў у дэпартамент паліцыі начальнік жандармерыі. Неўзабаве ў Шклоў была перакінута рота карнікаў з Оршы.

Крыху пазней, 17 кастрычніка 1905 года, пасля аб'яўлення царскага маніфеста сацыял-дэмакраты Шклова арганізавалі дэманстрацыі і мітынгі. На гэта царскае самадзяржаўе адказала яўрэйскім пагромам і расстрэлам дэманстрантаў. Тры дні працягваўся пагром, загінулі 22 члены самаабароны Шклоўскай і Дубровенскай арганізацый. Але гэта не зламала рэвалюцыйны дух рабочых і сялян. Хваляванні працягваліся аж да самага пачатку першай сусветнай вайны.

За перадзел ужо падзеленых калоній і "сфер уплыву" 19 ліпеня (1 жніўня) 1914 года павялі барацьбу дзве імперыялістычныя групоўкі дзяржаў. Вайна прынесла незлічоныя бедствы ўсім уцягнутым у яе краінам. Беларусы трапілі ў лік тых народаў, землі якіх сталі арэнай бітваў, у ходзе якіх гінула шмат мірных жыхароў, знішчаўся матэрыяльны і духоўны набытак. Але вайна паскорыла і выспяванне рэвалюцыйнай сітуацыі. Народныя хваляванні ахапілі ўсе пласты грамадства на велізарных тэрыторыях. У перадсмяротнай агоніі дажываў свае апошнія гады рускі царызм, а праз пэўны час знікла назаўсёды і сама Расійская Імперыя.

Жыхары Шклоўшчыны разам з усім беларускім народам пройдуць праз смяротныя віхуры гэтых палітычных падзей. Тысячы з іх загінуць у шматлікіх бітвах, па-рознаму складзецца далейшы лёс тых, хто застануцца жывымі, але ніводнага чалавека гэтыя падзеі не праміснуць. Пачнецца новы этап у гісторыі Шклоўшчыны і ўсёй шматпакутнай Беларусі.



Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Зачапіўшы ў мінулым нумары слова ***"банка"*** мушу зазначыць, што сейлаўцы ўжываюць і слова ***"бляшанка"***. Але гэтыя словы маюць тут свае адценні. На банку пад малако ніколі ***"бляшанка"*** не кажуць, а пустая банка з-пад кансерваў ці чаго яшчэ лёгка называецца і ***"бляшанкай"***. Маленькія круглыя пасудзінкі з ***донцам*** і ***вечкам***, зробленыя з паперы, пластмасы называюцца баначкамі, але ніяк не бляшанкамі. Сугучнае медычнае начынне тут гучыць, як ***"банькі"***. І гэтае слова больш ні з чым не асацыюецца.

Асобна трэба спыніцца на вопратцы. Нашы энцыклапедыі не фіксуюць нясвіжскага строю, а тым больш ні пра які сейлавіцкі строй казаць не выпадае. Вопратка была самая звычайная, і лексіка, якая яе абслугоўвала таксама звычайная.

Мужчыны насілі ***порткі*** і ***кашулі***. Мужчынскія порткі шыюцца з ***прарэхам*** і носяцца, як правіла з ***папругай***. Яшчэ пры Польшчы порткі шылі з ***цвікляй*** - клінам паміж калошамі. Словы ***галіфэ*** і ***клёшы*** ужываліся пры крайняй неабходнасці мо раз на год.

На кашулі апраналі ***фрэнч*** або ***марынарку***. Слова ***пінжак*** вывучылі недзе ў 60-я гады. Слова ***рубашка*** прыйшло з войска разам з асаблівага крою кашулямі. Але ніколі кашулю, якая ўбіраецца ў порткі, рубашкай не называлі.

Насілі ***свэтры*** і ***гарсэты***, мужчынскі гарсэт часцяком называўся ***камізэлькай***. Жаночыя гарсэты камізэлькамі ніколі не называліся.

У халодную пору зверху апраналі ***ватоўку***, ***кажух*** ці ***капоту***. Слова ***"капота"*** паступова саступіла месца больш "культурнаму" слову ***"паліто"***. Вядома было слова ***"футра"***, хаця ніводнага футра ў Сейлавічах мабыць не было да тога часу, пакуль недзе ў 2-й палове 60-х не пайшлі шырока штучныя жаночыя футры.

Кожны мужчына меў ***плашч***. Плашчы былі з прагумованай тканіны з узорам у клетачку на нутраным баку.

Дарэчы вонкавы бок тканіны ў Сейлавічах называецца ***правым*** бокам, сподні (нутраны) бок называецца ***левым*** бокам.

"Асенняе паліто" ў Сейлавічах называлася ***"вясёнка"***. Таму тэрмін ***"асенняе паліто"*** для Сейлавіч ніяк не пасуе. Калі ўжо і скарыстоўваць расейскую кальку, то мусім казаць ***"вясенняе паліто"***. А рэальна вёска ведала слова ***"вясёнка"***.

Пад паліто, а часта і пад вясёнку ***закладалі шалік***. ***Завязвалі*** шалік дзецям зверху па каўняры.

Слова ***"куртка"*** прыйшло таксама ў 2-й палове, мабыць, нават, у канцы 60-х разам з балоневым прадметам. Але практычна ўсе сейлавіцкія мужчыны мелі з добрага сукна на добрай ***падшэўцы (падкладзе)*** грунтоўныя, калі цяперашняй мовай, то курткі. Аднак яны мелі сваю назву і называліся ***"бравэркі"***.

Галаву сейлаўцы прыкрывалі ***шапкамі***. І летні, і зімовы галаўны ўбор называецца тут ***шапкай***. Ведаюць яшчэ і ***капялюш***, але яго насілі толькі інтэлігенты. У 60-я гады ў моду ўвайшлі скураныя зімовыя шапкі, як правіла выключна чорныя з чорным футрам.

У пачатку 70-х пачалі з'яўляцца так званыя ***пыжыкавыя шапкі***, хоць самога пыжыка (*пыжык - гэта аляня да 1 месяца*) ніхто тут не бачыў. Пыжыкавымі называлі ўсе футраныя шапкі.

На нагах насілі ***боты*** (хромавыя, керзавыя, гумовыя і літыя), ***чаравікі, туфлі, валёнкі*** (бітыя і шытыя), ***сандалі, тапачкі, кеды***. На валёнкі надзявалі ***галёшы*** і ***бахілы***. ***Слова "галёшы"*** ў Сейлавічах вымаўляецца цераз ***"г"*** выбуховае. Галёшы былі ўсе фабрычнай работы. Бахілы - гэта глыбокія галёшы. Яны, як правіла, клеіліся ў вёсках. Нажаль сёння ўжо я не магу сказаць, хто клеіў бахілы ў Сейлавічах.

Жанчыны бахілаў не насілі. У 40-х -- 50-х гадах былі ў модзе жаночыя хромавыя боты. Крой іх быў такі ж, як і крой мужчынскіх ботаў. Жаночыя боты сучаснага крою з'явіліся ў крамах ізноў жа недзе ў другой палове 60-х гадоў.

У 50-я гады ў сейлавіцкіх жанчын быў такі абутак, як ***снягоўцы***. Гэтым словам называліся арыгінальныя гумовыя чаравікі. Снягоўцы былі амаль у кожнай жанчыны, але ўжо ў 60-я гады я не памятаю, каб іх надзявалі.

Жанчыны насілі ***сукенкі, блюзкі*** і ***спадніцы, жакеткі***. Насілі ***свэтры і гарсэты***.

Такі элемент, як ліфчык, называўся ***"станік"***. Мушу нагадаць, што яшчэ на старажытна-індыйскай мове санскрыце жаночыя грудзі называюцца ***стана***. Таму слова ***"станік"*** нясе на сабе значна большую сэнсавую накрузку, чым звычайны элемент туалету.

Жаночыя райтузы ў Сейлавічах называлі польскім словам ***"майткі"***. ***"Майткі"*** маглі сказаць на дзіцячыя порткі, але на мужчынскія ніколі. Камбінацыя называлася ***"камбінажка"***.

***Трусы*** і ***майкі*** з'явіліся ў пачатку 60-х. І тут трэба адзначыць адну заканамернасць, якая характэрная для ўсяго чалавецтва і выдатна пацвярджаецца ў Сейлавічах. Яна палягае ў тым, што ўсе новыя элементы вопраткі і, адпаведна, новыя назвы, а таксама новыя крої і новыя моды апрабаваліся на дзецях. Тое, да чаго прывыкалі дзеці, яны прадаўжалі ўжываць вырасшы.

На галаву сейлавіцкія жанчыны завязвалі хусткі. Хусткі былі крамныя мабыць з пачатку 20-га стагоддзя, а мо і раней. Прынамсі ні аднай даматканай хусткі я ніколі не бачыў. Выдзяляліся ***кашаміравыя хусткі***. Вялікая хустка мела назву ***"канаплянка"***. У іншых месцах Беларусі такая хустка мае іншыя назвы, у прыватнасці, у Любані яна называецца ***"тараноўка"***. У Сейлавічах ***"канаплянкай"*** маглі назваць і вялікую суконную хустку. Але ***плед*** не маглі назваць ***"канаплянкай"***, а называлі ***"вялікай хусткай"***. У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" пад рэдакцыяй М. Р. Судніка і М. Н. Крыўко наша канаплянка падаецца, як хустка з канапляных нітак з паметкай *абл. (абласное)*. Сейлавіцкая канаплянка магла ўжо быць з любых нітак. Нажаль у энцыклапедыі "Этнаграфія Беларусі" гэтага тэрміну няма зусім.

Цёплыя хусткі ў Сейлавічах доўга рабілі пруткамі. Пад хустку падбіралі, як правіла, белую воўну. Маглі зрабіць з пуху. Пры гэтым пуховая хустка памерам ледзь ці не метр на метр прайходзіла праз пярсцёнак. Пазней, калі пазводзілі авечак, то цёплыя хусткі пачалі купляць.

Іншыя галаўныя ўборы тыпу капялюшык ці шапачка ўжывала толькі інтэлігенцыя. А пазней моладзь ад хустак, практычна , адмовілася, хіба што маладой на вяселлі завязваюць. Але на працу хусткі носяць, інакш не атрымоўваецца.

З верхняй вопраткі ў модзе былі ***плюшоўкі*** (плюшавыя курткі). Яны былі ў кожнай жанчыны абавязкова. Астатняя верхняя вопратка: ***паліто, плашч, футра, ватоўка***.

У 40-я -- 50-я гады кожнай дзяўчыне, як правіла, спраўлялі кажушок.

Быў у гардэробе сейлавіцкіх дзяўчат 50-х гадоў і такі прадмет, як ***муфта***. Але замужнія жанчыны ніколі іх не насілі, абыходзіліся ***рукавіцамі*** ці ***пальчаткамі***.

Дзіцячае паліто, як казалася, называлі ***капотай***, дзіцячую шапку часта называлі ***каптуром***.

Сейлавічы вялікія, таму мова засценка некалькі адрознівалася ад мовы вёскі.

Шляхта ўжывала каля дзесятка польскіх словаў: ***млека, мыдла, дзенькуя (дзінькуя)***, мо яшчэ колькі.

А так: у засценку ***студня*** – у вёсцы ***калодзезь***, у засценку ***шафа*** – у вёсцы ***шапа***, у засценку ***крама*** – у вёсцы ***лаўка***, ***бутэлька*** ў засценку – ***пляшка*** ў вёсцы, ***верашчака*** ў засценку -- ***мачанка*** ў вёсцы. Але на тым можа і ўсё.

Па-польску шляхта ведала яшчэ малітвы. І тонка жартавала са свайго ведання польскай мовы. Амаль што на кожную куццю, калі збіралася ўся сям'я, хтонебудзь загадваў класічную загадку: ***"Як будзе па-польску "куцця"***?". І што год адказаць мог толькі той, хто загадваў. Астатнія за год ізноў забываліся.

У сувязі з выключнай беларускамоўнасцю і шляхочай гжэчнасцю да 60-х гадоў Сейлавічы не ведалі мату. Калі дакладней, то мабыць ведалі, але катэгарычна не ўжывалі. Мат занеслі чыноўнікі ды і сейлавіцкія хлопцы, якія паслужылі ў войску ці *"павучыліся"* ў горадзе, але тут ён не прыжываўся. І толькі недзе праз 25 год савецкай улады "расейская культура" перамагла, але і да гэтага часу ніхто пры цвярозым розуме лішні раз не мацюкаецца.

Калі сварыліся, то ўжывалі моцныя словы, але гэта не быў мат. ***"Злодзей, сабака, свіння..."***, - вось крыўдныя словы, якімі абражалі.

Сейлавіцкія праклёны таксама былі мяккія: ***"Каб табе вочы пазамазвала, як ты ўсё ўгледзіш"***; ***"Каб цябе зямля не насіла, як ты гэтых куранят павыносіў"*** ( клялі тхара).

Ніколі не клялі жывёлу. Ніколі на жывёлу не сердавалі. Маглі палаяць каня, калі той наравіўся. Баяліся словаў: ***"Каб ты здох (здохла)"***. Калі такі праклён зрываўся, то ніколі не даканчваўся, а пасля ***"каб"*** ішло: ***"Каб... табе добра было"***, або злей: ***"Каб... цябе воўк"***. Ваўкоў практычна не было і такі кленіч не лічыўся кепскім.

Расейскую мову ў Сейлавічы завозілі чыноўнікі і настаўнікі. Але яна тут не прыжывалася. Я быў недзе ў класе 8-м, як прыйшлі маладыя настаўніцы і паспрабавалі нас пераканаць, што трэба гаварыць па-руску. Нічога з гэтай казкі не выйшла і яны мусілі з сваёй менскай навукі гераходзіць на нармальную беларускую мову. Строга па-руску ў вёсцы размаўляла настаўніца рускай мовы Ніна Дзмітраўна Сватkоўская, то яе вучні, мабыць, больш за ўсё і не любілі. Астатнія настаўнікі рускай мовы на перапынках размаўлялі па-беларуску.

Калі ў 1992 годзе я вярнуўся на Беларусь і мой малодшы сын мусіў пахадзіць з паўчвэрці у Сейлавіцкую школу, то настаўнікі рускай мовы прыходзілі самі паслухаць сапраўднае рускае вымаўленне і прымушалі дзяцей прыслухоўвацца.



Яўген Сухаверх Станіслаў Суднік Іван Кіраш

У пачатку 70-х у вясковых школах ярка вымалёўваліся не столькі антырускія колькі антыгарадскія настроі. А паколькі горад асацыяваўся з рускай мовай, то настроі былі і антырускія. Аднойчы нам у 10 класе прывезлі падручнікі "Біялогіі" на рускай мове, то Лёдзя Ванагель з Андрушоў узяла гэтую кніжку і з перадапошняй парты проста на ўроку шпурнула пад дошку і сказала: "Я па гэтай кніжцы вучыцца не буду". Недзе праз тыдзень кніжкі былі заменены на беларускія.

Вельмі не любілі тых, хто паехаў у горад, а вярнуўшыся пачынаў гаварыць па-руску. ***"Што, паўтара гарадскія батоны з'еў, і ўжо рускім стаў?"*** Маглі аблаяць, маглі і налупіць.

Вельмі моцна на адносіны да беларускай мовы паўплывалі "Песняры". Яны тады толькі ўзыходзілі на творчы Алімп. І кожная новая песня ўспрымалася не проста прыязна, а з нейкім энтузіязмам і замілаваннем.

Аднак ніякага свядомага руху за беларускасць у Сейлавічах тады не ўзнікла, хаця для гэтага былі ўсе ўмовы.

У 1971 годзе ў Сейлавічах была заснавана, як паводле сучасная тэрміналогіі, нефармальная вучнёўская арганізацыя "Спартак", якая хутка вырасла да 50 чалавек у Нясвіжскім і Клецкім раёнах. Арганізацыя мела сяброўскія білеты, самаробныя значкі, але не мела ніякай праграмы і талковай ідэі. Далей ідэі самадапамогі справа не пайшла. Тады не хапіла аднаго чалавека, які б гэтую ідэю прыўнёс, а самім нам не хапіла роўна года. Таму што за год маёй вучобы ў вайсковай навучальні, куды я паступіў у 1972 годзе, гэтая ідэя даспела.

Прыехаўшы ў адпачынак у 1973 годзе і воляй лёсу сустрэўшыся з Жэнем Сухаверхам з Бузуноў і Янкам Кірашом з Сейлавіч, якія таксама аказаліся ў адпусках, мы вусна пастанавілі на тэрыторыі Нясвіжскага раёна рускай мовы не ўжываць.



Славамір Чарнюк

І ўжо малодшым хлопцам Славіку і Юрку Чарнюкам, Чэсю Пражэніку, якія павялі рэй у 1973-1974 гадах крышку гэтай ідэі перапала. То Славік з хлопцамі арганізавалі "адукацыйны працэс"са студэнтамі, якія прыязджалі капаць бульбу. Вучылі беларускай мове рукамі. Можа гэта было і не правільна, затое даходчыва.



Часлаў Пражэнік

Жыццё патрапала сейлавіцкіх хлопцаў. Прайшлі войска, гарады, вучобу. Нехта памяняўся. Але большасць, засталіся такімі, як і былі. І Чэсь Некраш нават у Менску сумеў аддаць свайго сына ў беларускую школу.

А што ў вёсцы?

З'ехалі адны, прыехалі іншыя. Расейшчына лезе ў Сейлавічы праз кожную шчыліну. Але цяжка ўявіць каб хто паспрабаваў сказаць тут па-руску, што ***"трэба пайсці калы зачасаць, ды плот загарадзіць, каб каровы ў шкоду не лезлі"***.

*(Працяг у наст. нумары.)*

